**ВЫБАРЫ-2010**



Большасць дэпутатаў мясцовых Саветаў — беспартыйныя

2

**ЛОНДАН—ІВАЦЭВІЧЫ**

Аляксандр Надсан наведаў парафію іконы Маці Божай Жыровіцкай



3

**ДРЭВЫ НА СЦЕНАХ ПАЛАЦАЎ...**

Ідзе рэстаўрацыя ў Косаве і Ружанах



14



Выдавец УП "Газета для вас"

Выдаецца са студзеня 1997 года на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — адзін раз на тыдзень

# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

НАШ САЙТ У ІНТЭРНЭЦЕ
http://gdv.of.by

ІВАЦЭВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН
(Брэсцкая вобласць)

ISSN 1992-755X



№ 17 (748) 30 красавіка 2010 г., пятніца

Кошт свабодны (у розніцу)


# ЁСЦЬ ТОЛЬКІ "МІГ"...

## Сутыкнуліся самалёты Бярозаўскай авіябазы



www.forums.airforce.ru

Знішчальнік "МіГ-29" на авіябазе.

**21 красавіка ў 20.15 падчас ажыццяўлення планавага палёту ва ўмовах абмежаванай бачнасці пры выкананні манеўру павышанай складанасці адбылося сутыкненне ў паветры двух самалётаў МіГ-29 927-й знішчальнай авіяцыйнай базы (Бяроза). Пра гэта паведаміла прэс-служба Міністэрства абароны Беларусі.**

У выніку адна з машын атрымала пашкоджанні, якія не далі магчымасці прадоўжыць палёт. 29-гадовы лётчык Аляксей Цібароўскі здолеў вывесці знішчальнік у раён 210-га авіяцыйнага палігона і, пераканаўшыся ў адсутнасці на зямлі населеных пунктаў, катапультаваўся.

Прафесійныя дзеянні іншага пілота, 40-гадовага намесніка камандзіра авіяцыйнай эскадрыллі 927-й знішчальнай авіяцыйнай базы маёра Сяргея Міхайлава, дазволілі другой машыне паспяхова прызямліцца на базавым аэрадроме. Дарэчы, 26 сакавіка гэтага года ён быў узнагароджаны Ордэнам "За службу Радзіме" III ступені.

Цяпер жыццю лётчыкаў нішто не пагражае.

Прычыны здарэння расследуюцца камісіяй Міністэрства абароны.

"Гэта быў вучэбна-трэніровачны палёт, — расказаў начальнік прэс-службы Міністэрства абароны Вячаслаў Рэменчык. — Падчас такіх палётаў адпрацоўваецца шэраг элементаў пілаціравання і вядзення боя. Падчас трэніровак ідзе паступовае павышэнне складанасці — ад простага да складанага".

Беларуская ваенная пракуратура распачала справу па частцы 1 артыкула 465 Крымінальнага кодэкса ("Парушэнне правілаў палётаў або падрыхтоўкі да іх").

На месцы катастрофы працавалі прадстаўнік Мінабароны, камандаванне ВПС і войскаў СПА беларускай ваеннай пракуратуры, высвятляюцца прычыны здарэння і ўмовы, што спрыялі яму.

Падобнае здарэнне адбылося ўпершыню за ўсю 18-гадовую гісторыю беларускай авіяцыі.

Вядома, што знішчальнікі былі выраблены ў часы СССР і не падвяргаліся сур'ёзнай мадэрнізацыі.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ,
Павел ДАЙЛІД.
г. Бяроза.



**Наш e-mail:**

gdv@promedia.by



# ВЫБРАЛІ...

## Большасць дэпутатаў — беспартыйныя

**ІВАЦЭВІЧЫ. Па папярэдніх дадзеных, у Івацэвіцкім раёне ў выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў прынялі ўдзел 83,5% выбаршчыкаў.**

У першым жа туры галасавання былі абраны ўсе дэпутаты. У Брэсцкі абласны Савет дэпутатаў ад Івацэвіцкага раёна абраныя Тацціяна Касавец (84,5%), Святлана Масюк (80,1%), Уладзімір Абрамчук (87,7 %).

Паводле папярэдніх звестак, у Брэсцкай вобласці 54% абраных падчас мясцовых выбараў дэпутатаў з'яўляюцца дзейнымі дэпутатамі мясцовых саветаў, 36% — жанчыны, 2,7% — маладыя людзі да 30 гадоў. Больш за ўсё сярод дэпутатаў (28,5%) работнікаў адукацыі, навукі і аховы здароўя.

У галасаванні ў вобласці ўзялі ўдзел 78,7% выбаршчыкаў ад агульнага ліку ўнесеных у спісы. На мінулых выбарах у мясцовыя Саветы — 80,5%.

У Брэсцкай вобласці абраны 3.491 дэпутат. За дэпутацкія мандаты змагаліся 3.663 кандыдаты, з іх 96 — прадстаўнікі палітычных партый.



Павел ДАЙЛІД

На выбарчым участку ў Івацэвічах.

У вобласці абраныя дэпутатамі двое актывістаў Беларускай партыі левых "Справядлівы свет": Аляксандр Галькевіч стаў дэпутатам Баранавіцкага гарсавета і Уладзімір Дарапей — Брэсцкага райсавета. У Кобрынскім раёне ў Хыдрынскі сельсавет абраны Віктар Бардзюг — актывіст аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя".

Павел ДАЙЛІД,
Ларыса ШЫГАНАВА.

# Против насилия

**БЕРЕЗА. Районный смотр видеороликов на тему "Реальная копейка против призрачного доллара" прошел недавно в Березовском районе.**

Проводился он в рамках районной программы "Шагаем по жизни свободно" при финансовой поддержке Красного креста и Европейского союза.

Проблема торговли людьми актуальна сегодня во всем мире. В Беларуси с 2002 года до настоящего времени от насилия и торговли людьми пострадали 1385 женщин и 508 мужчин.

В показанных видеороликах отражалось понимание ребятами существующей мировой проблемы и пути ее решения. Все представленные сюжеты могли бы стать хорошей социальной рекламой по данной тематике.

Николай ДЕНИСИК.

# Унук-рабаўнік

**ДРАГІЧЫН. У вёсцы Бялінок 16-гадовы школьнік спрабаваў абрабаваць свайго 74-гадовага дзеда.**

Як паведамілі ў Драгічынскім РАУС, старшакласнік, ведаючы, што яго дзед атрымаў пенсію, 24 красавіка позна вечарам пракраўся ў яго дом.

З дапамогай металічнага прадмета ён адсунуў зашчапку, на якую знутры былі зачынены ўваходныя дзверы дома. Трапіўшы ў дом, падлетак запатрабаваў у дзеда грошай. Калі дзед адмовіў унуку, той прыціснуў яго да сцяны драўлянай лесвіцай. Стары мужчына здолеў вырвацца і ўцячы да суседзяў.

26 красавіка следчым аддзяленнем Драгічынскага РАУС у дачыненні да старшакласніка распачата справа па ч. 1 арт. 14 (замах на злачынства) і ч. 2 арт. 206 (рабаванне) Крымінальнага кодэкса. Ён затрыманы і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. У супрацоўнікаў міліцыі ёсць падставы меркаваць, што ўнук і раней аналагічным чынам вымагаў у свайго дзеда грошы.

Ларыса ШЫГАНАВА.

# Напаляваліся...

**ІВАЦЭВІЧЫ. 20 красавіка былі затрыманыя жыхар г. Івацэвічы і жыхар в. Сярадава Івацэвіцкага раёна, якія ў лясным масіве каля п. Зялёны Бор учынілі незаконны адстрэл дзіка.**

Як паведамляе прэс-служба УУС Брэсцкага аблвыканкама, высвілася, што палявалі яны з незарэгістраванай стрэльбай ІЖ-18Е. Сума страты, нанесеных у выніку адстрэлу дзіка, ацэньваецца больш як на два мільёны рублёў.

У затрыманых забралі зброю, гільзу, чатыры патроны, мапед і тушу забітага дзіка. Івацэвіцкім РАУС узбуджана крымінальная справа.

Павел ДАЙЛІД.

# Конкурс модельеров

**БЕРЕЗА—ПРУЖАНЫ. На сцене Центра молодежного творчества города Бреста прошел финал традиционного открытого конкурса юных модельеров "Весенний капри-2010".**

Свои коллекции одежды представили школьники и воспитанники внешкольных учреждений области в различных номинациях. Показать себя на подиуме приехали ребята из Пружан, Березы, Высокого. Всего было представлено 27 коллекций. Коллекция, изготовленная и представленная девушками из кружка "Модиз" ЦВР г. Березы под названием "Подарок английской королеве" получила диплом за первое место в номинации "Школа моды. Классика и молодость". Автор коллекции Светлана Егорова, ученица 10 класса средней школы №1 города Березы, за основу взяла лен — исконно белорусскую ткань. В числе победителей конкурса уже не первый год ребята из народной студии моды "Папарадь-кветка" Пружанского центра творчества детей и молодежи.

Николай ДЕНИСИК.

# Атака на магазіны

**ПРУЖАНЫ. У ноч на 21 красавіка быў абрабаваны магазін у в. Еськаўцы Пружанскага раёна: з крамы зніклі спіртное, цыгарэты і прадукты харчавання на суму каля двух мільёнаў рублёў.**

Па падазрэнні ва ўчыненні крадзяжу былі затрыманы двое жыхароў вёскі Мілейкі Івацэвіцкага раёна, адзін з якіх раней судзімы непаўналетні. У іх і знойдзена частка ўкрадзенай маёмасці. Узбуджана крымінальная справа.

А вось тых, хто на наступны дзень абрабаваў магазін у в. Далкі, пакуль міліцыянеры адшукваюць. Узбуджана крымінальная справа за крадзеж спіртнога і прадуктаў харчавання на суму звыш двух з паловай мільёнаў рублёў.

Васіль СНАПКО.

# Яшчэ адзін карупцыянер

**ПРУЖАНЫ.** 17 красавіка ў дачыненні да старшыні ліквідацыйнай камісіі ААТ "Папялёва" была ўзбуджана крымінальная справа за атрыманне хабару.

Зараз праводзяцца следчыя дзеянні па высвятленні ўсіх абставін справы.

Васіль СНАПКО.

# Парыбачыў...

**ДРАГІЧЫН. 20 красавіка Драгічынскім РАУС за незаконную лоўлю рыбы ўзбуджана крымінальная справа ў дачыненні да непрацуючага жыхара в. Радастава Драгічынскага раёна.**

Апошні 14 красавіка быў затрыманы супрацоўнікамі памежнага атрада на возеры Белае каля в. Гаравіца падчас лоўлі рыбы незаконнымі прыладамі — пад'емнай сеткай, чым прычыніў страты на суму больш як 4,5 мільёна рублёў.

Павел ДАЙЛІД.

# Внимание, розыск!

**ИВАЦЕВИЧСКИМ РОВД разыскивается без вести пропавшая Елена Васильевна Михнюк, 1927 года рождения, жительница д. Холопья Ивацевичского района Брестской области, которая с 26 июня 2009 года отсутствует по месту жительства, ее местонахождение неизвестно.**



Ее приметы: на вид 85 лет, рост 160 см, худощавого телосложения, волосы темно-русые с сединой, лицо смуглое, отсутствует большинство зубов.

Установлено, что Е. В. Михнюк характеризуется кратковременной потерей памяти и не ориентируется в местности, склонна к бродяжничеству. В настоящее время Е. В. Михнюк может представляться под вымышленными данными. По имеющейся информации Е. В. Михнюк в августе месяце 2009 года находилась в районе железнодорожной станции "Птич" Минского района, где представилась как Мария Николаевна Серкевич.

Просим граждан не оставаться равнодушными, сообщить в органы внутренних дел сведения о местонахождении без вести пропавшей Елены Васильевны Михнюк.

Информацию можно сообщить в ближайший отдел милиции либо по тел. +375-29-529-05-77; +375-29-159-41-39 — уголовный розыск.

Александр ГУК,
начальник РОВД,
подполковник милиции.

# Фура сутыкнулася з трактарам

**У ІВАЦЭВІЦКІМ раёне фура, якой кіраваў грамадзянін Польшчы, сутыкнулася з трактарам, вадзіцель якога атрымаў сур'ёзныя траўмы.**

Як паведаміў інспектар аддзялення па агітацыі і прапагандзе ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкама Ілья Помін, аварыя адбылася 21 красавіка ў 7.10 на аўтадарозе мяжа Літвы — Слонім — Бысень непадалёк ад вёскі Даманава. Аўтамабіль "ДАФ-105" з паўпрычэпам пад кіраваннем 36-гадовага грамадзяніна Польшчы пры абгоне сутыкнуўся з трактарам "МТЗ-80" з культыватарным абсталяваннем, які рухаўся ў спадарожным напрамку.

У выніку ДТЗ 39-гадовы трактарыст атрымаў закрытую чэрапна-мазгавую траўму, страсенне галаўнога мозгу, адкрыты пералом лобнай косці і ўдары галавы.

Пацярпелы — жыхар вёскі Даманава — шпіталізаваны ў Івацэвіцкую цэнтральную раённую бальніцу. Вадзіцель фуры не пацярпеў.

Па гэтым ДТЗ праводзіцца праверка Івацэвіцкім РАУС.

Як адзначыў Помін, з пачатку года на дарогах вобласці гэта другое ДТЗ з удзелам трактара і восьмае сутыкненне транспартных сродкаў, якія рухаліся ў спадарожным напрамку. У выніку гэтых ДТЗ траўмавана дзевяць чалавек.

Ларыса ШЫГАНАВА.

# Зайшоў праз акно

**ІВАЦЭВІЧЫ. У ноч на 21 красавіка жыхар в. Стайкі, высціснуўшы аконную шыбу, улез у памяшканне летняй кухні ў двары жыхаркі гэтай жа вёскі.**

Такім чынам злодзей вынес з памяшкання электралобзік, электрадрыль і некаторыя іншыя рэчы на агульную суму 243 тысячы рублёў.

Як высветліла міліцыя, злодзеям апынуўся мала таго, што аднавяскоўец, дык яшчэ і аднагодак пацярпелай жанчыны, якая звярнулася ў міліцыю.

Івацэвіцкім РАУС злодзей затрыманы, узбуджана крымінальная справа.

Павел ДАЙЛІД.

# ЛОНДАН — ІВАЦЭВІЧЫ

## Візіт Аляксандра Надсана

**26 красавіка Івацэвічы наведаў Апостальскі Візітатар для беларускіх грэка-католікаў замежжа мітрафорны протаіерэй Аляксандр Надсан з Лондана. Упершыню ён памаліўся разам з парафіянамі Івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Жыровіцкай.**

Візіт а. Аляксандра Надсана ў Івацэвічы звязаны з тым, што ў гэтым годзе ў Беларускай грэка-каталіцкай царкве святкуецца юбілейны год каранацыі папскімі каронамі іконы Маці Божай Жыровіцкай, імя якой і носіць грэка-каталіцкая парафія Івацэвічаў. З а. Аляксандрам пагутарыў карэспандэнт "Газеты для вас".

**— Айцец Аляксандр, разам з Вамі ў Лондане служыць наш зямляк, ураджэнец Івацэвічаў, а. Сяргей Стасевіч. Напэўна, ад яго Вы ўжо шмат ведаеце пра наш край?**

— Так, калі я слухаю а. Сяргея Стасевіча, то пачынаю разумець, што Івацэвічы — цэнтр Свету. Айцец Сяргей шмат расказвае мне пра Івацэвічы, ён ганарыцца сваім паходжаннем. Я, увогуле, вельмі задаволены, што ён служыць разам са мной у Лондане. Ён крыху маладзейшы за мяне — гадоў на пяцьдзесят (смяецца), і вельмі мне дапамагае. Ваш зямляк а. Сяргей мае сапраўднае святарскае пакліканне, ён выдатны святар.

**— Сёлетні год у Беларускай грэка-каталіцкай царкве з'яўляецца юбілейным годам каранацыі папскімі каронамі іконы Маці Божай Жыровіцкай. Раскажыце аб значнасці гэтай падзеі ў жыцці Царквы.**

— Жыровіцкая ікона Божай Маці — вельмі шанаваная ў Беларусі з даўніх часоў. І мы памятаем таксама, што Жыровічы былі здабытыя для грэка-каталіцкай царквы святым Язафатам, і ў тыя часы сталі найвялікшым цэнтрам пашаны Багародзіцы. Таму мы ўдзячныя Богу за тое, што 280 гадоў таму папа рымскі Бенедыкт XIII захацеў каранаваць Жыровіцкую ікону Маці Божай. Гэта вялікая дата для грэка-каталіцкай царквы.

**— Айцец Аляксандр, Вы прыехалі ў Беларусь якраз падчас угодкаў Чарнобыльскай трагедыі. Мы ведаем, што з 1989 года Вы — старшыня Беларускага камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі ў Вялікабрытаніі. Раскажыце нам аб дзейнасці гэтага камітэта.**


Павел ДАЙЛІД

Аляксандр Надсан у Івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі.

— Калі мы ў Вялікабрытаніі пачулі пра гэтую бяду, што здарылася ў Беларусі, то вырашылі хоць крыху дапамагчы. Стварылі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі і збіралі сродкі беларускай дыяспарай за мяжой. Набывалі неабходныя лекі і накіроўвалі ў Беларусь. Калі мы перадавалі дапамогу першы раз, тады і я ўпершыню прыехаў з эміграцыі ў Беларусь. Ездзілі мы і ў рэгіёны, пацярпелыя ад радыяцыі. Але на сённяшні дзень умовы дастаўкі дапамогі ў Беларусь змяніліся, і нам ужо складаней дапамагчы.

**— Раскажыце аб беларускай дыяспары за мяжой, у прыватнасці, у Вялікабрытаніі.**

— Вялікабрытанія — гэта як маленькая правінцыя Беларусі (смяецца). Разумееце, беларуская дыяспара розная: тыя, якія захацелі застацца беларусамі, — засталіся, але ж ёсць і адрэзаныя ад Бацькаўшчыны ў духоўным, культурным плане. Беларускія грэка-католікі ў Брытаніі імкнуцца застацца беларусамі і пашырыць веды заходняга свету пра Беларусь, яе культуру, гісторыю і яе патрэбы. Але лёс народа залежыць не ад эміграцыі, а ад тых людзей, якія жывуць на Радзіме.

Мы ж можам толькі дапамагчы, таму мы развіваем царкоўныя справы (перакладаем літургічныя тэксты на беларускую мову), заснавалі беларускую бібліятэку імя Францішка Скарыны ў Лондане, якая налічвае каля 30 тысяч беларускіх кніг і кніг пра Беларусь. Сёння гэтай бібліятэкай едуць карыстацца навукоўцы з многіх краін. І мы гэтаму толькі рады.

**— Вашыя пажаданні парафіянам Івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Жыровіцкай і чытачам "Газеты для вас".**

— Жадаю ўсім жыхарам Івацэвіччыны ласкі Божай, жыць заўсёды з Богам. А грэка-каталіцкай парафіі жадаю далейшага ўмацавання і росту ўглыб духоўнага развіцця. Няхай будзе згода між вамі заўсёды.

Гутарыў Павел ДАЙЛІД.
г. Івацэвічы.

# Думкі ўслых

## Свабода прэсы — аснова дэмакратыі

**3 мая адзначаецца Сусветны дзень свабоды друку. Гэты дзень быў абвешчаны Генеральнай Асамблеяй ААН у 1993 годзе.**

ААН адзначае, што свабодны, плюралістычны і незалежны друк з'яўляецца неабходным кампанентам любога дэмакратычнага грамадства. Таму Сусветны дзень свабоды друку з'яўляецца штогадовым напамінам міжнароднай грамадскасці, што свабода друку і свабода выражэння меркаванняў з'яўляюцца асноўнымі правамі, замацаванымі ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Грамадства павінна абараняць гэтыя правы, таму што яны ўяўляюць сабой аснову дэмакратыі і аказваюць рэальнае ўздзеянне на жыццё людзей ва ўсім свеце.

Таму чытайце незалежную прэсу, выпісвайце "Газету для вас".

Павел ДАЙЛІД.
г. Івацэвічы.

## Клуб "Подзвіг"

**Народны клуб ветэранаў вайны і працы "Подзвіг" створаны ў горадзе энергетыкаў Белаазерску ў 1983 г.**

Удзельнікамі яго сталі ветэраны вайны, працы, тыя, хто любіў спяваць не толькі для сябе. Званне "Народны" калектыў атрымаў у 1993 г. Клуб вядзе актыўную канцэртную дзейнасць, а таксама работу па патрыятычнаму выхаванню дзяцей і моладзі. Калектыў актыўна ўдзельнічае ва ўсіх мерапрыемствах гарадскога Дома культуры. Не аднойчы можна было пачуць выступленні хора і ў Бярозе. Ні адно свята, прысвечанае Дню Перамогі, Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, не праходзіць без удзелу гэтага паважанага калектыву. Гэтыя вясновыя дні напярэдадні майскіх свят і Дня Перамогі асабліва насычаныя, бо запланавана шмат канцэртаў. Вельмі цікава і павучальна праходзяць у народным клубе вечары адпачынку, агенчыкі, круглыя сталы. Кіраўнік народнага клуба "Подзвіг" — П. І. Вясна.

Мікалай ДЗЯНІСІК.
г. Бяроза.

## Есть идея!

*"Я за налог, не умолчу,*
*Мне ведь на это хватит смелости.*
*Да, я платить его хочу,*
*Но знаешь, меньше, чем хотелось бы".*

*Есть идея по реформе —*
*Вы послушайте, друзья,*
*Чтоб всё было у нас в норме,*
*Предлагаю вот что я:*
*Брать налог за дачный сад,*
*С каждой ветки и листа,*
*Брать за дождь, за снегопад...*
*Казна будет не пуста.*
*Ну, а то, как мы вдыхаем,*
*Глубоко, без всякой меры,*
*Безвозмездно поглащаем*
*Кислород из атмосферы?*
*За уменье плакать, петь,*
*Улыбаться, есть и пить,*
*За способность умереть*
*И родиться. Просто жить!*

Владимир ФЕДОТОВ.
г. Пружаны.

# "Дабудавалі" пяцідзесяты юбілей

**У гэтым месяцы свой паўвекавы юбілей адзначыла адна з буйнейшых арганізацый Беларусі — аб'яднанне "Брэстаблсельбуд".**

Гэта падзея напрамую звязана з Пружанскім раёнам. За час свайго існавання будаўнікі аб'яднання ўзвялі на Пружаншчыне вялікую колькасць сацыяльных і вытворчых аб'ектаў, сярод якіх школы, бальніцы, фермы і цэлыя прадпрыемствы.

Сёння, акрамя пяці пастаянных прадпрыемстваў і ўчасткаў, у Пружанскім раёне працуюць яшчэ сем арганізацый аб'яднання. А гэта звыш тысячы будаўнікоў.

З нагоды святкавання юбілею кіраўніцтва "Аблсельбуда" адзначыла граматамі і дыпломамі працу шэрагу арганізацый і спецыялістаў.

Чатыром лепшым работнікам аб'яднання "Брэстаблсельбуд" урачыста прысвоены званні Ганаровага будаўніка, сярод якіх і дырэктар ПМК-21 Васіль Лук'янчук.

Васіль СНАПКО.
г. Пружаны.

# Навели порядок

## на улицах Березы и Белоозерска

**Месячник по благоустройству и наведению порядка в городах и сельских населенных пунктах закончился в Березовском районе субботником.**


Николай ДЕНИСИК

В течение апреля месяца закрепленные за предприятиями и организациями территории были приведены в порядок. Во время субботника работниками Березовского ЖКХ были разобраны ветхие дома по улице Советской. Именно в этом месте планируется возвести здание ЗАГСа и прокуратуры. Решена проблема перехода улицы Ленина в районе узла почтовой связи и рынка (на фото). Необходимость наличия перехода в этом месте назрела давно. Взрослые и дети "протоптали" в этом месте дорогу, создавая тем самым постоянную аварийную обстановку на одной из самых оживленных улиц. Приведена в порядок территория зоны отдыха в микрорайоне Северный. Высажена рассада цветов вдоль улиц.

Николай ДЕНИСИК.
г. Береза.

# УСПОМНІЛІ ПРА ВАЕННЫЯ БАЗЫ

## А. Лукашэнка адказаў Дз. Мядзведзеву

**Аляксандр Лукашэнка нагадвае расійскаму калегу Дзмітрыю Мядзведзеву аб тым, што ў Беларусі знаходзяцца дзве расійскія ваенныя базы, за якія РФ нічога не плаціць. Пра гэта кіраўнік беларускай дзяржавы заявіў журналістам 25 красавіка ў Мінску пасля галасавання на выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў.**



"Калі прэзідэнт Расіі на гэта забыўся, то час успомніць", — сказаў А. Лукашэнка, каменціруючы выказванні Мядзведзева, зробленыя падчас яго нядаўняга візіту ва Украіну.

Гаворачы пра рэакцыю Масквы на знаходжанне ў Беларусі звергнутага прэзідэнта Кыргызстана Курманбека Бакіева, прэзідэнт Беларусі адзначыў: "Мядзведзеў, мабыць, пакрыўдзіўся, што Бакіеў прыехаў у Беларусь, а не ў Расію".

А. Лукашэнка таксама нагадаў, што ў 2005 годзе, каменціруючы "цюльпанавую" рэвалюцыю ў Кыргызстане, кіраўніцтва Расіі заявіла, што апазіцыя на чале з Бакіевым "шмат зрабіла для развіцця адносінаў з Расіяй", і выказала шкадаванне, што пераварот у Кыргызстане адбыўся з людскімі ахвярамі. "Параўнайце выказванні тады і сёння — хіба гэта не двайныя стандарты?" — адзначыў А. Лукашэнка. Пры гэтым ён падкрэсліў, што вельмі многія высокапастаўленыя чыноўнікі з Кыргызстана, Украіны, Аджарыі змаглі атрымаць працу ў Маскве пасля змены ўлады ў сябе на радзіме. "Якія могуць быць папрокі ў дачыненні да мяне? Я прыняў чалавека, з якім быў у добрых адносінах. Ён не з'яўляўся маім сябрам у адрозненне ад іншых прэзідэнтаў", — заявіў Лукашэнка.

Нагадаем, 21 красавіка прэзідэнты Расіі і Украіны Дзмітрый Мядзведзеў і Віктар Януковіч дамовіліся аб працягу тэрміну знаходжання Чарнаморскага флоту Расіі ў Севастопалі з 2017 года яшчэ на 25 гадоў і магчымасці далейшага працягу яшчэ на пяць гадоў.

Пры гэтым была дасягнута дамоўленасць, што Украіна атрымае скідку на газ, які пастаўляецца Расіяй, у 100 долараў пры цане 330 долараў за тысячу кубаметраў і 30% — пры іншай цане.

На наступнай прэс-канферэнцыі Мядзведзеў адказаў на пытанне, ці можа разлічваць Беларусь на аналагічную ўкраінскай скідку на газ. Ён заявіў, што Расія гатова даваць прэферэнцыі рэальным партнёрам, а не тым, хто гэта толькі дэкларуе. "Адна справа — рэальнае партнёрства, а іншая справа — дэклараванне намераў. Адна справа — дамаўляцца аб тым, каб па-сур'ёзнаму працаваць, ісці насустрач адзін аднаму, дапамагаць адзін аднаму, а іншая справа — прымаць рашэнні аб прыёме на пастаянное месца жыхарства людзей, якія страцілі працу. Гэта розныя рэчы. Рабіце высновы самі", — сказаў Мядзведзеў.

# Адным сказам

- Колькасць насельніцтва Беларусі за студзень—сакавік 2010 года зменшылася на 13,4 тыс. у параўнанні з гэтакім жа летанім перыядам.
- Расія мае намер уступаць у Сусветную гандлёвую арганізацыю самастойна, а не ў межах Мытнага саюза з Беларуссю і Казахстанам, гэта заявіў першы віцэ-прэм'ер Расіі Ігар Шувалаў 26 красавіка ў Вашынгтоне.
- Прыблізна 23% кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў не выкарысталі бюджэтныя грошы на выраб агітацыйных матэрыялаў, паведаміла 26 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына.
- "Датэрміновае галасаванне застаецца адным з галоўных інструментаў для фальсіфікацыі выбараў", — лічыць старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі Партыі БНФ Дзмітрый Шыманскі.
- У парадзе Перамогі 9 мая ў Мінску ўпершыню возьмуць удзел ваенныя з Расіі і Украіны.
- Каля 30 спартыўных мерапрыемстваў будзе праведзена ва ўсіх мікрараёнах Мінска падчас святкавання Дня Перамогі.
- У Беларусі створана грамадскае аб'яднанне "Саюз "Гільдыя півавараў".

# Ушанавалі ахвяр Чарнобыля

**"Чарнобыльскі шлях — 2010", які прайшоў у Мінску 26 красавіка, завяршыўся без інцыдэнтаў.**

Удзельнікі акцыі спачатку правялі мітынг каля будынка прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук, а затым па тратуарах вуліцы Сурганава накіраваліся да Чарнобыльскай капліцы ў парку Дружбы народаў непадалёк ад плошчы Бангалор. У ходзе шэсця колькасць дэманстрантаў паменшылася з паўтары тысячы да пяцісот чалавек.

Яны ўсклалі кветкі да каменя-помніка ахвярам аварыі на ЧАЭС, запалілі свечкі, ушанавалі хвілінай маўчання памяць ахвяр тэхнагеннай катастрофы, памаліліся за іх супакой і праспявалі духоўны гімн "Магутны Божа".

Сярод удзельнікаў акцыі былі палітыкі і грамадскія дзеячы Мікалай Статкевіч, Павел Севярынец, Віталь Рымашэўскі, Аляксей Шэін, Вячаслаў Сівчык.

# Ва Украіну – без візаў

**26 красавіка Савет Рэспублікі падтрымаў ратыфікацыю беларуска-ўкраінскага пагаднення аб бязвізавых паездках грамадзян. Дакумент быў падпісаны ў Кіеве 12 чэрвеня 2009 года.**

Законапраект аб ратыфікацыі пагаднення Палата прадстаўнікоў прыняла 2 красавіка.

Як паведаміў намеснік міністра замежных спраў Валерый Варанецкі, пагадненне захоўвае бязвізавы рэжым паездак для ўсіх катэгорый грамадзян Беларусі і Украіны на падставе дакументаў, згаданых у дадатку да пагаднення. Агаворваецца парадак паездак дзяцей і працэдуры вяртання ў сваю краіну грамадзян, якія страцілі правільныя дакументы.

Пагадненне прадугледжвае парытэтныя ўмовы выхвалення грамадзян двух дзяржаў ад рэгістрацыі ў кампетэнтных органах на месцы іх знаходжання на тэрыторыі іншай дзяржавы на працягу 20 дзён з даты ўезду пры наяўнасці міграцыйнай карты.

Тэрмін знаходжання грамадзян на тэрыторыі дзяржаў бакоў можа складаць 180 дзён на працягу года або 90 дзён на працягу паўгода з даты першага ўезду, паведаміў Варанецкі.

Украіна гэтае пагадненне ўжо ратыфікавала.

# Тарыфы выраступь пасля даходаў

**Пытанне павышэння тарыфаў на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі будзе разглядацца пасля павелічэння рэальных даходаў насельніцтва. Пра гэта заявіў журналістам намеснік міністра ЖКГ Сяргей Сушко.**

"Прэзідэнт у пасланні да народа назваў умовы для павышэння тарыфаў — гэта павышэнне рэальных даходаў насельніцтва", — адзначыў Сушко. Паводле яго слоў, рашэнне аб павышэнні тарыфаў будзе прымацца паводле ўзгаднення з кіраўніком дзяржавы.

Намеснік міністра заявіў, што насельніцтва аплачвае 32% расходаў на паслугі ЖКГ, астатнія 68% пакрываюць прадпрыемствы і бюджэт.

Паводле слоў Сушко, ЖКГ, у сваю чаргу, неабходна знізіць сабекошт і забяспечыць якасць паслуг для таго, каб потым, калі насельніцтва "закране павышэнне тарыфаў, наракання не было, што вада як была, так і засталася неадпаведнай якасці". Як паведаміў намеснік міністра, на канкрэтных аб'ектах энергаспажыванне плануецца знізіць да 25%.

Сёння ў водаправодна-каналізацыйнай і цеплавой гаспадарцы неабходна замяніць 9 тыс. помпаў — 20% ад усяго такога абсталявання, паведаміў Сушко. На працягу трох гадоў плануецца правесці замену састарэлых помпаў на энергазберагальнае абсталяванне. Намеснік міністра адзначыў, што трэба выбраць пастаўшчыка помпаў, бо ў Беларусі няма ўласнай вытворчасці такога абсталявання.

# Бакіева вернуць?

**Звергнуты прэзідэнт Кыргызстана Курманбек Бакіеў завочна абвінавачаны па двух артыкулах крымінальнага кодэкса — у арганізацыі забойстваў і злоўжыванні службовым становішчам. Такім чынам, падставы для яго экстрадыцыі ёсць, заявіў намеснік старшыні часовага ўрада Кыргызстана Азімбек Бекназараў, які курыруе праваахоўныя органы.**

Як патлумачыў юрыст беларускай дзяржустановы, які пажадаў застацца неназваным, калі новыя ўлады Кыргызстана запатрабуюць ад Беларусі выдачы Курманбека Бакіева, то гэтае пытанне будзе вырашацца не ў агульнакрымінальнай, а ў палітычнай плоскасці.

У агульнакрымінальнай практыцы, паводле слоў эксперта, пытанне аб экстрадыцыі на тэрыторыі СНД вырашаецца на падставе Мінскай канвенцыі 1993 года аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах. Калі грамадзянін якой-небудзь дзяржавы ўчыніў на яе тэрыторыі злачынства і схаваўся ў Беларусі, то беларускія ўлады абавязаны выдаць яго гэтай дзяржаве.

Не выдаць абвінавачанага Беларусь можа ў выпадку давання яму палітычнага прытулку.

# У дэманстрацыі адмоўлена

**Брэсцкі гарвыканкам не задаволіў заяўку гарадскіх арганізацый Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) і Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" на правядзенне 1 мая дэманстрацыі.**

"Прычыны адмовы традыцыйныя, — паведаміла БелаПАН старшыня гарадской структуры сацыял-дэмакратаў Ганна Канюс. — Па-першае, як заяўляюць улады, маршрут дэманстрацыі праходзіць бліжэй чым за 50 метраў ад шэрагу адміністрацыйных будынкаў, што забаронена ў адпаведнасці з артыкулам 9 закона "Аб масавых мерапрыемствах"; па-другое, рух да 150 дэманстрантаў па тратуарах і пешаходных пераходах можа прывесці да парушэння руху транспарту. Акрамя таго, у сёлетняй адмове дададзена яшчэ адна матывіроўка — рамонтна-будаўнічыя работы на адной з вуліц маршруту дэманстрацыі".

У адказе гарвыканкама таксама адзначаецца, што заяўнікі "могуць узяць удзел у культурна-масавых мерапрыемствах, якія праводзяцца гарвыканкамам у парку імя 1 Мая, нароўні з іншымі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь".

"Канешне, мы, як і планавалі, возьмем удзел у гэтых мерапрыемствах, але не толькі як грамадзяне нашай краіны, але і як партыйцы, — заявіла Канюс. — Мы накіруемся ў парк калонай, няхай і не з такой колькасцю людзей, як намячалі, і не па тых вуліцах. Прычым зробім гэта пад сваімі партыйнымі сцягамі".

Брэсцкія гарадскія арганізацыі БСДП (Грамада) і Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" планавалі 1 мая з 11.00 да 12.00 прайсці па праспекце Машэрава і вуліцы Леніна да галоўнай плошчы горада, затым далучыцца да ўдзельнікаў мерапрыемстваў, арганізаваных уладамі ў гарадскім парку культуры і адпачынку імя 1 Мая. Меркаваная колькасць дэманстрантаў — 150 чалавек.

*Паласа падрыхтавана па матэрыялах БелаПАН.*

# VINSENT У "РЭАКТАРЫ"!

## Івацэвіцкі рэпер выступіць у адным з буйнейшых клубаў Беларусі

**7 мая ў сталічным клубе "Рэактар" адбудзецца вялікі канцэрт беларускага рэпера Vinsent'а. У праграме канцэрта можна будзе пачуць лепшыя песні гэтага таленавітага выканаўцы івацэвіцкага паходжання. Напярэдадні канцэрта Vinsent (Дзмітрый Папко) даў эксклюзіўнае інтэрв'ю "Газеце для вас".**

**— Дзмітрый, раскажы, калі ласка, пра сябе чытачам "Газеты для вас".**

— Я нарадзіўся ў горадзе Івацэвічы, паспеў павучыцца ў чацвертай і першай школах, а скончыў ліцэй. Потым паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на факультэт журналістыкі. А цяпер факультэт пераўтварыўся ў Інстытут журналістыкі БДУ. У наступным годзе, калі ўсё будзе добра, атрымаю вышэйшую адукацыю. Дзе б я ні быў, ніколі не забываю пра свае карані. З гонарам усім распавядаю пра сваю малую радзіму!

**— Калі закончыш факультэт журналістыкі, то будзеш працаваць па спецыяльнасці або плануеш прафесійна займацца творчасцю?**

— Пакуль не вырашыў. На дадзены момант я больш жыву музыкай, чым журналістыкай. Але трэба адзначыць, што журналісцкая адукацыя мне вельмі дапамагае ў музычным менеджменце. Я ведаю, як працуюць СМІ, а кантакт з прэсай вельмі важны, каб данесці сваю творчасць да людзей.

**— Тваё сцэнічнае імя Vinsent. Другое імя Кастуся Каліноўскага, якому ты прысвяціў адну са сваіх песень, таксама Вінцэнт. Ты выбраў сабе такі псеўданім таму, што табе імпануе вобраз гэтага змагара за праўду?**

— Мой псеўданім вымаўляецца як "Вінсэнт", але пішацца заўсёды лацінкай. Я бязмежна паважаю нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Вельмі рады, што песня "Слава Героям!", якую я прысвяціў вялікаму беларусу, прыйшлася даспадобы слухачам. Плануецца, што выйдзе дыск, дзе будуць сабраныя песні, прысвечаныя Каліноўскаму. Мой твор таксама ўвойдзе ў гэтую складанку разам з песнямі многіх беларускіх альтэрнатыўных зорак. Але менавіта мой псеўданім ніякім чынам не звязаны з Кастусём Каліноўскім. Маё сцэнічнае імя ўвогуле не нясе схаванага сэнсу. Галоўнае, каб песні былі добрымі, і не важна, па псеўданіме ты "Кароль" ці "Жабрак".

**— Калі ты пачаў спяваць і калі, увогуле, з'явіўся Vinsent?**

— Я пачаў свой творчы шлях у 2007 годзе. Мой першы выступ адбыўся на журфаку БДУ. Тады мы з аднадумцамі зладзілі вечарыну "Патэльня кахання", што была прымеркавана да Дня беларускай мовы. З таго часу ў мяне адбылося шмат выступаў, канцэртаў у розных гарадах Беларусі. Вельмі плённым выдаўся 2009 год. У мяне выйшаў альбом "Пачатак", які быў вельмі цёпла сустрэты многімі слухачамі і музычнымі крытыкамі. На дзве песні з альбому былі знятыя кліпы. А відэа на песню "Восеньскі вальс" стала лепшым беларускім кліпам 2009 года па версіі некалькіх прэмій!

**— Ты спяваеш па-беларуску, і гэта робіць цябе ўнікальным сярод масы рускамоўных рэпераў нашай краіны. А ці не лічыш ты, што, спяваючы па-беларуску, табе будзе складаней выбіцца на міжнародны ўзровень?**

— Я чытаю рэп на мове, якой ганаруся. На той мове, што ёсць адной з галоўных каштоўнасцей у маім жыцці. Апошнім часам я стаў заўважаць, што беларускі рэп за межамі нашай краіны атаясамліваюць менавіта з імем Vinsent. І гэта не дзіва, бо я раблю сапраўдны нацыянальны рэп. А рускамоўныя выканаўцы з Беларусі становяцца калькай расійскага хіп-хопу. Што да пытання выхаду на міжнародны ўзровень, тут патрэбна валоданне англійскай мовай. Прычым, рэп з'яўляецца тым жанрам, дзе словы маюць найважнейшае значэнне. На жаль, пакуль што я не магу пісаць па-англійску класныя тэксты, а дрэнныя пісаць не хачу. Можа, калісьці і з'явіцца нешта па-англійску, але пакуль што я сканцэнтраваны на беларускамоўным рэпе. Тут трэба шмат папрацаваць, каб зрабіць з беларускага рэпу брэнд. Але я выконваю не толькі музычную функцыю. Адначасова займаюся і беларусізацыяй грамадства. Мне вельмі часта пішуць людзі, што пачалі размаўляць на беларускай мове, паслухаўшы мае песні. Таксама ёсць замежнікі, якія сталі вывучаць нашу мову, цікавіцца беларускай культурай пасля знаёмства з маёй творчасцю. Гэта ёсць найвялікшы падарунак для творцы!

VINSENT
ВІНСЭНТ
7 мая
клуб
"Рэактар"
(вул. Веры Харужай, 29)
Пачатак 19:00
ЖЫВЫ ГУК
БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!
WWW.BUDZMA.ORG
Freestyle
ВОПРАТКА І АБУТАК
"Фрыстайл"
Фэст беларускамоўнага рэпу

Vinsent чакае вас у "Рэактары".

**— Раскажы, што будзе на канцэрце 7 мая ў мінскім клубе "Рэактар".**

— 7 мая адбудзецца мой вялікі канцэрт у лепшым канцэртным клубе сталіцы. Я выканаю песні з альбому "Пачатак", а таксама прадугледжана прэзентацыя некалькіх новых трэкаў. І без сюрпрызаў не абыйдзецца. Таму трэба чакаць вельмі цікавую праграму. Запрашаю чытачоў "Газеты для вас" наведаць мой вялікі канцэрт 7 мая ў мінскім клубе "Рэактар". Квіткі ўжо ў продажы, але іх можна будзе набыць непасрэдна на ўваходзе ў дзень канцэрта. Я вельмі чакаю на падтрымку землякоў!

**— Ці выступаў ты калі-небудзь у родных Івацэвічах? Калі нам чакаць Vinsent'а з вялікім канцэртам?**

— На жаль, у родным горадзе я не выступаў. З радасцю б пагадзіўся даць канцэрт, калі б мяне запрасілі арганізатары. Шкада, што ў Івацэвічах няма нармальнага клуба. Было б класна, каб у горад прыязджалі альтэрнатыўныя музыкі з жывымі выступамі. Але ў ДК выступаюць толькі поп-спевакі. На жаль, у івацэвіцкай моладзі няма магчымасці ў родным горадзе хадзіць на канцэрты шчырай якаснай музыкі. Але маю спадзеў, што я калісьці дам канцэрт для роднай публікі!

**Гутарыў Павел ДАЙЛІД.**
**г. Івацэвічы.**

### СЛУХАЙ СВАЁ!

**Паважаныя чытачы! Інтэрв'ю з рэперам Vinsent'ам адкрыла ў нашай газеце новую старонку "Хітовая Берасцейшчына".**

Старонка будзе знаёміць вас з музычнымі навінамі вобласці, тут вы зможаце адкрыць для сябе цікавы свет музыкі, якую іграюць ураджэнцы нашага рэгіёну. Берасцейшчына на дзіва багатая на таленавітых музыкаў, якія праявілі сябе на многіх канцэртах і фестывалях. Таму не трэба шукаць музычных куміраў недзе ў Расіі або на Захадзе, бо таленты, будучыя зоркі, жывуць між нас.

Пішыце нам, пра якіх выканаўцаў — нашых землякоў — вы хацелі б пачытаць, і мы абавязкова выканаем вашы просьбы.

**Рэдакцыя "Газеты для вас".**

# "Кропка вяртання"

## Канцэптуальны рэліз "Сцяны"

**У кожнай музычнай з'яве жывая практыка фармуе пэўныя адметныя школы: як у Амерыцы ў свой час вызначыліся нью-арлеанская, сіэтлская плынь, гэтак і ў беларускім року здаўна загаварылі пра полацкую школу ("Мясцовы час", "Рокаш", "Індра"), пра магілёўскую ("Osimira", "Mauzer", "Глюкі"), мінскую ("Мроя", "Бонда", "P.L.A.N."). А што можна сказаць пра наш заходні рэгіён напярэдадні выхаду на сталічным лэйбле "БМAgroup" паўнафарматнага альбому "Кропка вяртання" неаднаразовага пераможцы фэсту "БАСовішча" — брэсцкага гурта "Сцяна"?**

Датычна менавіта нацыянальнай плыні, дык варта пачаць з таго, што сённяшні спіс беларускіх гіперактуаліяў у року узначальваюць бярозаўскі ":Б:Н:" ды магілёўскі "Mauzer", альбомы якіх не проста нарасхват, а ў сталым чаканні. У той жа Бярозе падгадаваныя і лідэры заўтрашняга дня "Кальмары", "Мясцовыя", якія даюць гарантаваныя зборы фэнаў на сталічных канцэртах. Вядомы і імклівы поступ брэсцкага "Спрату", а івацэвіцкі рэпер "Vinsent" дык і на сталічнай сцэне здолеў пацiснуць нашага ж, паляшуцкага, гадаванца "ЧпБ" у сваім стылі. І ўсё ж, нягледзячы на такі змястоўны спіс прыярытэтаў Брэстчыны, паўнамоцным прадстаўніком нацыянальнага року на міжнародных фестывалях стала акурат згаданая "Сцяна".

Унікальны саўнд калектыва дазволіў ім адметна вызначыць сваю прысутнасць у найпрэстыжнейшых супольных праектах ("Viza Незалежнай Рэспублікі Мроя", "Генералы айчыннага року"), у фестывальным руху ("БАСовішча" ў Польшчы, "BeFree" ў Украіне), у самастойных рэлізах (МС-альбом "Рыфмы лёсаў" на мінскім лэйбле "Limas" у




Вокладка дыска гурта "Сцяна". Альбом "Кропка вяртання".

2002). Але паўнавартаснага высокатыражнага CD ад "Сцяны" чакалі даўно. І дачакаліся: 26 лютага гэтага года сталічны клуб "Рэактар" быў перапоўнены з нагоды гучнай прэзентацыі вось гэтай самай "Кропкі вяртання".

Структура рэлізу распрацавана надзвычай канцэптуальна, каб востра ставіць надзённыя пытанні маладзёжнага асяроддзя: ці варта шукаць межаў бязмежнага? ("Пра каханне"); хто ты, калі на роднай мове здольны з блізкімі размаўляць толькі праз слоўнік? ("Кім я быў"); якім чынам можна ўсё сваё знайсці ды ўсё згубіць? ("Ніколі болей"); як не баяцца адзіноты? ("2000000"); як дасягнуць мэты на жыццёвым шляху, не мінуўшы кропку вяртання? ("Кропка").

Што да музычнага ўвасаблення, дык першае праслухоўванне CD можа стварыць перад аналітыкам пэўныя стылёвыя непаразуменні. Здаецца, нібы нейкія экстрэмалы, наслухаўшыся музыкі "Pink Floyd", спрабуюць сумясціць несумяшчальнае: нястрымаы рок-драйв з сімфанічнымі аб'ёмамі.

Пра самастойныя творчыя асэнсаванні сведчыць мастацкая аздоба альбома, дзе выявы музыкаў (спеўнага гітарыста Пашы Прохарава, бас-тэкставіка Андрэя Клімуса, саксафаніста Яўгена Лук'янчыка, бубнара Аляксея Кузняцова) пададзены ў вобразе зззяючай лямпачкі.

Дый насамрэч: добры пасыл святла сімвалічна дэкларуецца ў фінальнай песні "Працяг будзе", якая б магла саслужыць і ролю рэкламнага хіт-сінгла, хоць нашыя прадзюсеры чамусьці ўзялі на раскрутку ў розных складанках твор "2000000". Не скажу, што гэта няправільна, бо выбар хітоў у канцэптуальна збалансаваных альбомах "Сцяны" няўдзячная задача. Іхняя вартасць разгортваецца ў кантэксце.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА,**
**музычны крытык.**
**г. Мінск.**

# ДРЭВЫ НА СЦЕНАХ ПАЛАЦАЎ

## застануцца толькі на фотаздымках

**Рэстаўрацыя Ружанскага палаца Сапегаў і Косаўскага палаца Пуслоўскіх павялічыць прыток турыстаў у наш рэгіён.**

Такой думкі прытрымліваюцца многія спецыялісты ў галіне турызму і аховы гісторыка-культурнай спадчыны. Таму адбудова гэтай занядбанай за савецкімі часамі спадчыны з'яўляецца вельмі актуальнай для мясцовых уладаў.

У Ружанах ужо завяршылася рэканструкцыя ўязной брамы ў палац Сапегаў і заканчваецца адбудова аднаго з флігеляў брамы, у якім будзе месціцца музей. У Косаўскім палацы, таксама ў адной яго частцы, ужо хутка пачнуцца ўнутраныя работы.



Палац Пуслоўскіх у Косаве.



Брама Ружанскага палаца Сапегаў.

Але рэканструкцыя ідзе са сваімі асаблівасцямі, найперш выражанымі ў фінансаванні. Як адзначыў Аляксей Кубік, праараб ААТ "Брэстрэстаўрацыя", адказны за правядзенне работ у палацы Сапегаў, рэстаўратары палаца Пуслоўскіх у Косаве маюць менш праблем з фінансаваннем, чым рэстаўратары палаца Сапегаў у Ружанах.

— Фінансаванне рэстаўрацыі брамы палаца Сапегаў ажыццяўляецца з мясцовых бюджэтаў, а Косаўскі палац аднаўляюць паводле рэспубліканскай праграмы. Таму ў косаўскіх рэстаўратараў у гэтым плане сітуацыя і лепшая, — тлумачыць нам Аляксей Кубік, — але калі будзе бесперабойнае фінансаванне, то ў гэтым паўгоддзі мы ўжо здадзім першую чаргу работ.

Аляксей Кубік упэўнены ў выключнай важнасці аднаўлення палаца:

— Працуючы тут, мы бачым, колькі людзей прыязджаюць сюды паглядзець, пафатаграфаваць. Таму трэба стварыць тут адпаведную інфраструктуру, тады турызм будзе прыносіць вялікія грошы гэтай мясцовасці.

Яшчэ Аляксей Кубік расказаў, што цалкам адрэстаўраваць палац Сапегаў магчыма, але для гэтага патрэбныя вялікія грошы. Але спецыяліст упэўнены, што некалі гэта ажыццявіцца.

Тым часам рэстаўратары палаца Пуслоўскіх у Косаве расказалі нам, што задаволены фінансаваннем аб'екта і паступленнем неабходных матэрыялаў. Тут ужо працуюць і ў цэнтральнай частцы палаца, таму хутка тыя часы, калі на сценах палаца раслі дрэвы, застануцца зафіксаванымі толькі на фотаздымках.

**Павел ДАЙЛІД.**
**Фота аўтара.**
**Ружаны – Косава.**

# "Дорогами мира, дружбы и согласия"

## Международная экспедиция посетила Березу



Николай ДЕНИСИК.

**В канун 65-летия Победы на всем постсоветском пространстве проводится множество памятных торжественных мероприятий.**

Жители города Березы, ветераны войны, представители общественных организаций района стали свидетелями и участниками масштабной встречи-акции в Старинном парке с международной молодежной экспедицией, следовавшей в честь 65-летия окончания Великой Отечественной войны под девизом "Дорогами мира, дружбы и согласия" по маршруту "Москва — Смоленск — Минск — Брест — Варшава — Берлин — Торгау — Франкфурт-на-Одере — Москва".

Встреча в Березе прошла в очень теплой обстановке. Стороны обменялись приветствиями с пожеланиями мира, дружбы и созидания людям всех стран.

Гости возложили цветы и венки к мемориалу памяти воинов, погибших в Афганистане. Генерал-лейтенант В. И. Гнездилов рассказал всем присутствовавшим о том, что формирование состава делегации осуществлялось в г. Москве, других городах России и стран СНГ. Участниками автопоезда являются школьники, студенты, кадеты, победители и активные участники конкурсов, выставок, встреч, дети из детских домов и приютов, ветераны Великой Отечественной войны и военной службы.

Председателю Березовского районного Совета депутатов Т. К. Карпенко были вручены тематические сувениры и памятные подарки, среди которых большой интерес вызвали копия Знамени Победы, которое реяло над рейхстагом 9 мая 1945 года, "блокадный" ленинградский хлеб — черный кирпичек, испеченный по рецепту 1941 года, а также гильза с ленинградской землей. Все эти экспонаты пополнят Березовский краеведческий музей.

Генерал-лейтенант В. И. Гнездилов вручил ветеранам войны грамоты и памятные медали "Союзники Победы". Российские и белорусские ветераны смогли пообщаться между собой.

По традиции, березовчане оставили памятные надписи на экспедиционных знаменах, которые по окончании акции будут переданы в музей на Поклонной горе в Москве. Завершилась встреча праздничным выступлением образцово-показательного ансамбля "Донские узоры".

Важнейшим этапом маршрута стало празднование 65-й годовщины встречи советских и американских войск на реке Эльбе, которое состоялось 25 апреля 1945 года в городе Торгау. В этот день делегация находилась в месте событий, куда прибыли делегации из США, Великобритании, Франции и Германии. Там же состоялась встреча потомков участников Второй мировой войны под девизом "За мир, дружбу и согласие", во время которой прошла передача эстафеты проведения таких встреч от ветеранов войны представителям молодежных организаций европейских стран.

**Николай ДЕНИСИК.**
**г. Береза.**

# Акция юных спасателей



Валерий МОЛОШ.

**С начала нынешнего года в д. Бытень пожарным местного аварийно-спасательного поста пришлось выезжать на ликвидацию пожаров в жилых домах и хозяйственных постройках, а также на тушение сухой прошлогодней растительности девять раз.**

И хоть это можно назвать закономерным, ведь в деревне проживает около 2-х тысяч жителей, однако и тревога спасателей за противопожарное состояние этого населенного пункта тоже обоснована. В целях предупреждения пожаров в Бытени в рамках месячника пожарной безопасности проведена акция "Бытень — безопасная деревня", инициаторами которой стал районный отдел по ЧС, а участниками — воспитанники Бытенского детского дома, учащиеся Бытенской средней школы.

На улицы деревни, в наиболее многолюдные места, вышли в фирменных майках и кепках районного отделения Белорусской молодежной общественной организации спасателей-пожарных Даша Гусева, Наташа Горбач, Павел Митрошенков, Жанна Шмигель, Владимир Калицкий и другие ребята. Двое из ребят представляли в ходе акции "сигарету" и "окурок", для чего были изготовлены костюмы. Ребята раздавали при этом памятки о соблюдении мер пожарной безопасности в жилых домах и квартирах, на приусадебных участках и в лесах, направленные на предупреждение пожаров от детской шалости с огнем. Одним из главных аспектов акции была реклама автономного пожарного извещателя. Юные спасатели приводили примеры спасенных на пожарах людей при помощи заранее установленных в домах и квартирах извещателей, а также раздавали памятки, призывающие использовать извещатели в качестве подарков своим родным и друзьям.

**Валерий МОЛОШ.**
**г. Ивацевичи.**

# Сводка погоды (30.04.2010 г. — 06.05.2010 г.)

| от www.meteo.by | 30 | 30 | 1 | 1 | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | 6 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ночь | день | ночь | день | ночь | день | ночь | день | ночь | день | ночь | день | ночь | день |
| Температура, С | +13 | +24 | +16 | +23 | +13 | +21 | +13 | +20 | +14 | +20 | +8 | +18 | +11 | +19 |
| Тенденция давления | 741 | 738 | 736 | 738 | 739 | 742 | 740 | 738 | 738 | 739 | 742 | 743 | 741 | 740 |

# Анекдоты

Блондинка покупает туфли.
— Первые два-три дня туфли будут немного жать, — предупреждает продавец.
— Ничего страшного, я надеюсь их только на будущей неделе...

Серёжки в ушах — это антенники для улучшения приёма волн счастья. И чем слабее приёмник, тем больше антенок.

Муж и жена-блондинка обсуждают свой бюджет. Все до последнего цента уходит на жизнь, а им хотелось бы немного откладывать. Жена рассуждает вслух:
— Может, нам следует одалживать немного денег каждый месяц и их откладывать?

Главная задача платной медицины — перевести острую боль в хроническую.

— Что такое Актимель?
— Это умение продать 100 граммов обычного кефира по цене литра.

Объявление:
Юридически подкованный пенсионер "задолбает" любую организацию письменно или по телефону за символическое вознаграждение.





ПРАВИЛА ПОДАЧИ ЧАСТНЫХ ОБЪЯВЛЕНИЙ ПО КУПОНУ

- Купон предназначен для бесплатного частного объявления (детям (продаю и куплю), утеряно, даром, стол находок, ищу работу) или поздравления без стихотворного куплета и фотографии.
- За каждый стихотворный куплет к поздравлению нужно перечислить **1000 рублей на счет 3012000001022 ф-л 111 АСБ "Беларусбанк", г. Ивацевичи, код 150501623, УНП 200515456** и выслать квитанцию вместе с купоном и текстом на адрес отдела рекламы редакции: **г. Ивацевичи, ул. Ленина, 8а.** Эти же реквизиты используются для оплаты объявлений в платные рубрики.
- Один купон должен содержать **ОДНО** объявление в **ОДНУ** рубрику.
- При заполнении каждая буква или цифра пишется в одну клеточку, между словами пропускается по одной клетке.
- Купоны без фамилии и адреса рекламодателя, а также коммерческого характера не печатаются.

**ПЛАТНЫЕ РУБРИКИ** (одно слово — 400 руб.)

**продается** (недвижимость; авто-мото-вело, запчасти, сельхозмашины; бытовая и оргтехника; мебель; разное)
**куплю, сниму, сдам, меняю, требуется;**

минимальная стоимость 2800 руб.;
оплата производится и в отделе рекламы редакции: г. Ивацевичи, ул. Ленина, 8А.

ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС **КУПОН** для частного объявления в бесплатные рубрики

ДЕЙСТВИТЕЛЕН с 30.04.10г. по 06.05.10г.

Текст писать разборчиво, печатными буквами

Фамилия, имя и адрес
(сведения не печатаются):

**БЕСПЛАТНЫЕ РУБРИКИ:**
детям (продается и куплю);
утеряно, даром, стол находок, ищу работу.

Вядзецца падпіска на "ГАЗЕТУ ДЛЯ ВАС" на II паўгоддзе 2010 г.

*Падпісацца на яе можна ў любым паштовым аддзяленні Брэсцкай вобласці*

| | ДЛЯ ІНДЫВІДУАЛЬНЫХ ПАДПІСЧЫКАЎ (індэкс 63834) | ДЛЯ ВЕДАМАСНАЙ ПАДПІСКІ (індэкс 64145) |
|---|---|---|
| на 1 месяц | — 4840 рублёў | — 8715 рублёў |
| на квартал | — 14520 рублёў | — 26145 рублёў |
| на паўгоддзе | — 29040 рублёў | — 52290 рублёў |



# ГОРОСКОП 03.05—09.05

**ОВЕН (21.3—20.4)**
Сейчас вы сможете собрать всю свою волю в кулак и добиться результатов. Но этому будет мешать ваше желание отвлечься на какие-либо развлечения. Постарайтесь немного повременить с отдыхом, особенно с дорогими удовольствиями. Для релаксации куда лучше подойдет вторая половина этой недели.

**ТЕЛЕЦ (21.4—20.5)**
Отличное время для расширения своего кругозора, углубления своих познаний. Сейчас вы будете более любознательными и пытливыми. Вторая половина этой недели будет благоприятной в финансовом отношении. Вы можете запланировать любые действия, направленные на стабилизацию вашего финансового положения.

**БЛИЗНЕЦЫ (21.5—21.6)**
Ваши детективные и аналитические способности возрастут, но в этот период появится и много лишней информации. От вашего умения отличать истину от лжи во многом будет зависеть ваш успех и правильность принятых решений. Вы сможете четко выражать свое мнение, проявлять повышенную инициативу в общении.

**РАК (22.6—22.7)**
Удачный период для поиска новых общих интересов с партнером по браку. Сделать это сейчас очень важно, поскольку их отсутствие в этот период может осложнить ваши отношения. Стоит уделить внимание релаксации, правильному питанию, можно попробовать занятия йогой или духовные практики.

**ЛЕВ (23.7—23.8)**
Первая половина этой недели будет благоприятна для целенаправленной работы. Сосредоточьтесь именно на повседневных делах, проявите больше интенсивности в своей работе, и вознаграждение вас обязательно найдет. А вот ссориться с начальством и любыми влиятельными людьми в течение этого периода не рекомендуется.

**ДЕВА (24.8—23.9)**
Удачное время для любых творческих проектов и начинаний. Доверять всему в течение первой половины этой недели не стоит — опасность обманов со стороны незнакомых вам людей в это время высока. Для обдумывания своих истинных целей замечательно подходит вторая половина этой недели.

**ВЕСЫ (24.9—23.10)**
Вы часто будете задумываться о степени риска в той или иной ситуации и роли риска в вашей жизни в целом. Сейчас вам необходимо учиться просчитывать риски, а также находить способы их снижения. Для поиска единомышленников в других городах и странах удачной окажется вторая половина этой недели.

**СКОРПИОН (24.10—22.11)**
Первая половина этой недели может стать прекрасным временем для конструктивного общения. Для смелых и решительных действий благоприятной станет вторая половина этой недели. Будет прекрасно, если к этому времени вы уже будете иметь некоторый план таких действий.

**СТРЕЛЕЦ (23.11—21.12)**
Звезды рекомендуют вести здоровый образ жизни и обратить внимания на собственное здоровье. Не рекомендуется заниматься самолечением. Вторая половина этой недели может открыть новые перспективы в ваших личных взаимоотношениях. Хороший период для обсуждения своих мечтаний и желаний с близким человеком.

**КОЗЕРОГ (22.12 — 20.1)**
Первая половина этой недели принесет творческое и романтическое настроение. Однако сейчас может повыситься склонность к рискованным любовным приключениям, случайным связям. В течение второй половины этой недели стоит обратить внимание на свое здоровье.

**ВОДОЛЕЙ (21.1 — 19.2)**
Из-за вашего упрямства могут происходить конфликты с вашим супругом или супругой. Комфортная психологическая обстановка в семье сделает ваш дом отличным местом для релаксации и восстановления своих сил. Это замечательное время для любовных свиданий, заключения брака или помолвки.

**РЫБЫ (20.2—20.3)**
Вас ожидает большое количество общения с вашими друзьями и единомышленниками. Для решения вопросов, связанных с вашим домом или принадлежащей вам недвижимостью, вам прекрасно подходит вторая половина этой недели. Можете запланировать или начать ремонтные работы или совершить генеральную уборку.





В. А. ГАЛ. РЭДАКТАРА ПАВЕЛ КАНСТАНЦІНАВІЧ ДАЙЛІД

ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС
Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў ГАУПП "Слонімская друкарня" (231800, Гродзенская вобл., г. Слонім, вул. Хлопіна, 16). ЛП № 02330/0056651 ад 29.03.2004 г. Аб'ём — 4 друк. аркушы. Падпісана да друку 29 красавіка ў 14.00. Заказ 1478.

"Газета для вас" выдаецца са студзеня 1997 г.
Заснавальнік: УП "Газета для вас".
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі РБ.
Пасведчанне № 423 ад 22 мая 2009 г.

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў. Іх меркаванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных аб'яў.
Ⓡ — матэрыял друкуецца на правах рэкламы.
Спасылка на нашу газету абавязковая.

Падпісныя індэксы:
63834 (індывідуальная)
64145 (ведамасная)
Кошт:
у індывідуальных гандляроў — свабодны.
Тыраж 3.500 экз.

АДРАС РЭДАКЦЫІ "Газеты для вас":
вул. Леніна, 8А, г. Івацэвічы, 225295
Тэлефоны: (8-01645) 2-12-29 (гал. рэдактар),
(8-01645) 2-48-87 (факс, карэспандэнты, рэклама)
Карпункт у Бярозе — 8-029-332-94-57.
E-mail:gdv@promedia.by
http://www.gdv.of.by